Расейск. Т-ва), А. і Р. Румянцавы, бацька і сын — студэнт, Анна Карабовіч, Вячаслаў Адамовіч і інш.

„Дзен. Віл.“ дадае, што, усяго ў Вільні зроблена 46 вобыскаў, у тым ліку — ў рэдакцыі „Віленскай Газэты Злоты“. Назаўтра ўсіх іх звольнілі.

Апрача арыштаў у Вільні, арыштавана 15 расейцаў у розных паветах віленскага ваяводзтва.

### Салідарнасьць манархістаў.

Віленскія манархісты ўраз-жа пасьля забойства Войкова абвясьцілі ў сваім органе „Новая Россія“ публічны збор грошы для сям'і Кавэрды, выяўляючы гэтак сваю салідарнасьць з забойцай! Нумар газэты сканфіскавала паліцыя.

## Кандыдаты «Беларуска-Расейскага» сьпіску і забойства пасла Войкова.

Дзеля характэрыстыкі тэй расейскай групы, разам з якой „нашы“ сельсаюзьнікі выбраліся іосьці на выбары ў мястовы самаўрад у Вільні пад нумарам 1, цікава адзначыць, што—ў сувязі з забойствам Кавэрдай пасла Войкова—абодва галоўныя прадстаўнікі расейскае групы на гэтым сьпіску: **Емельянов** і **Румянцев** — былі заарыштаваны польскай паліцыяй, якая гэтым сцьвярдзіла сувязь саюзьнікаў „нашых“ сельсаюзьнікаў **з расейскім манархістычным рухам наагул**. Дык беларусы, калі хочаце, каб ізноў вярнулася для народаў былае Расеі царская нагайка,—галасуйце за сьпісак № 1 і гэтак узмацняйце і на нашай зямлі ўплывы расейскіх манархістаў!

Вось на які шлях заклікаюць вас сельсаюзьніцкія „дзеячы“!!!

# На Балканах неспакойна.

### Разрыў дыпляматычных зносінаў паміж Югаславіяй і Альбаніяй.

Быццам ужо зусім „залагоджаны“ канфлікт між Югаславіяй і Альбаніяй ізноў разгарэўся з нябывалай сілай і ўрэшце давёў да разрыву зносінаў паміж абыдвума краямі.

Ход апошніх падзей залішне ярка сьведчыць аб тым, што Італія выразна правакуе Югаславію на ваенны канфлікт на грунце імкненьня Італіі да панаваньня над Альбаніяй, дый што Югаславія зусім ня хоча бяз бою ўступаць Італіі свае ўплывы на гэты палітычна нявыразны ды бязладны край на Балканах. Мы ведаем, што, побач з пратэстам проці арышту югаслаўскага драгамана (тлумача) ў Тырано, югаслаўскі ўрад патрэбаваў яго звальненьня ў вельмі рэзкай форме, абразьлівай для альбанскага ўраду. Альбанскі ўрад, пад націскам італьянскіх „дарадцаў“ адказаў адмовай, пазываючыся на тое, што арыштаваны драгаман — грамадзянін Альбаніі. Тады югаслаўскі ўрад дадаў, што, калі ў працягу пэўнага часу гэты драгаман Г'юрковіч ня будзе звольнены, дык усе прадстаўнікі Югаславіі выедуць з Альбаніі; — інакш кажучы, што югаслаўскі ўрад спыніць дыпляматычныя зносіны з альбанскім. Гэта-ж амаль не пагроза вайной! Альбанскі ўрад перастрашыўся сьпярша такога вострага павароту справы і згадзіўся звольніць арыштаванага,—пад варункам, што югаслаўскі ўрад „возьме назад“ некаторыя рэзкія выражэньні з свайго ўльтыматуму. Югаслаўскі ўрад зразумеў гэтае жаданьне, як ігру на тое, каб працягнуць час (можа—каб даць магчымасьць падгатавацца да ўваходу ў „ігру“ Італіі?!), правакуючы разрыў стасункаў,—і зрабіў гэты апошні крок—апошні перад аб'яўленьнем вайны.

Венская прэса піша, што новае завастрэньне канфлікту выклікана ўмысна італьянскім урадам, які ня хоча весьці беспасрэдных перагавораў з Югаславіяй у справе італьянска-альбанскага трактату, апратэставанага Югаславіяй, але хоча, наадварот, пакуль-што пакінуць справу нявырашанай, — каб у кожны мамэнт можна было прычапіцца і—рашыць справу аружжам.

Італьянскія газэты пішуць, што югаслаўскі ўрад сваім рэзкім ультыматумам умысна абраз'ў альбанскі ўрад, каб адкінуць магчымасьць залагоджаньня канфлікту...

Парыжская прэса называе стварыўшаеся на Балканах палажэньне вельмі трывожным. Альбанска-югаслаўскі канфлікт, калі навет і будзе залагоджаны, ня спыніць, але яшчэ больш завострыць спор Югаславіі з Італіяй аб Альбанію. Францускія газэты зьмяшчаюць цікаўныя весткі аб тым, што альбанскі прэм'ер ужо быў даў загад споўніць дамаганьне Югаславіі і тым залагодзіць канфлікт; ён навет ужо тэлеграфаваў да альбанскага пасла ў Белградзе, каб той паведаміў югаслаўскага міністра Марынкавіча аб звальненьні югаслаўскага консула... Але ў апошні мамэнт гэтая пастанова ўраду Альбаніі была зьменена—пад націскам Мусоліні... Гэта ясна паказывае, якую „незалежнасьць“ мае Альбанія.

### Югаслаўскае пасольства пакінула Альбанію.

Прадстаўніцтва Югаславіі з усімі консуламі пакінула Альбанію.

### Альбанскі ўрад зьвярнуўся ў Лігу Народаў.

Альбанскі ўрад паведаміў Лігу Народаў аб разрыве Югаслаўскім урадам стасункаў з Альбаніяй. 13 чэрвеня адчыняецца сэсія Рады Лігі, дык можна думаць, што апошняя прыме меры, каб не дапусьціць да вайны. Калі... калі ёй гэта будзе выгадна!

### Роля Англіі.

Француская прэса піша, што — на падставе апошняга лёнданскага паразуменьня Англіі з Францыяй—урады гэтых краёў павінны ўмяшацца згодна ў справу канфлікту, каб загарантаваць мір на Балканах... Адна з францускіх газэтаў дык яшчэ ясьней піша, што за плячыма альбанскіх рызыкантаў стаіць, навет не хаваючыся, італьянскі ўрад; але і далей адвага італьянскіх авантурыстаў апіраецца на тайным падтрыманьні Англіі. Дык—як зрэшта і ўсюды на сьвеце, дзе толькі завогнены стасункі ды зарыта пагроза вайны,—трэба шукаць рукі англійскіх „пажарных“...

## Выбух складаў амуніцыі пад Кракавам.

Як мы паведамлялі, 5 чэрвеня ў 10 гадзін раніцы здарыўся вялізарны выбух складаў амуніцыі і парахоўні пад самым Кракавам — Вітавіцах. Узарваліся 2 вялізарныя магазыны (склады). У адным з іх было аж 80 тысяч. кіляграмаў рознага роду выбуховых матэрыялаў, у другім — шмат рознай сапёрскай амуніцыі.

Выбух быў такі сільны, што ў Кракаве думалі, быццам гэта — зямлітрасеньне. У месьце Кракаве, навет у цэнтры, націск паветра быў такі, што на вуліцы людзей зьбівала з ног, скідала з крэслаў у дамох; маса вокнаў у месьце стаўкліся ў груз. У некаторых мясцох места напор паветра пазваліваў муры, пазрываў ды пакруціў грубыя, каваныя зялезныя акяньніцы ў крамах.

На месцы выбуху — толькі вялізарная, яма, засыпаная грузам. Навакол месца выбуху, дзе ў незразумелай зусім блізіні мясьціўся цэлы рад розных меставых установаў, як дзяцінныя больніцы — з сотнямі хворых дзяцей і інш., ня лічучы прыватных дамоў,—скуткі і сьляды выбуху—страшэнныя.

Слушна піша навочны сьведка—карэспандэнт „Роботніка“, што — навука страшэннага выбуху ў Варшаўскай цытадэлі (ў 1923 годзе) прапала дарма для польскіх уладаў. Тады міністар унутран. спраў Кернік вінаваціў у выбуху... жыдоў-замахоўцаў. Але тады навет француская ваенная місія ў Парыжу пратэставала проці такога „простага“ тлумачэньня, заявіўшы, што яна даўно і некалькі разоў перасьцерагала адпаведныя польскія ўлады аб небясьпецы самазапаліваньня новых гатункаў пораху, якія трэба хаваць асабліва, а перадусім — далёка ад жыльля. „Францускія перасьцярогі прапалі бяз рэха“, сцьвярджае „Роботнік“. Прычынай выбуху і цяпер, як сцьвярдзіў вучоны спэцыяліст, запрошаны ўрадам, было самазапаленьне—у выніку вялікае гарачыні апошніх дзён — аднаго гатунку пораху, які, відаць, папросту ня ўмеюць хаваць у Польшчы.

Лічба ахвяр катастрофы — вялізарная. Усяго, як сцьвярдзіў у заяве журналістам кракаўскі ваявода, ранена аж 486 асоб, якія ляжаць, ці былі агледжаны ў бальніцах. Ранена большасьць няцяжка, — пераважна шклом, якое сыпалася з вокнаў. Асабліва цяжка пацярпелі дзеці, што лячыліся ў бальніцах, якія былі разьмешчаны **навакол парахоўняў...** 115 дзяцей перавезены ў іншыя больніцы — пасьля „курацыі“ ў кракаўскіх парахоўнях. Цяжка раненых 35 асоб, у тым—12 дзяцей. Забіты на мейсцы вартаўнік пры складах.

Стратаў прыватных асобаў аблічана на некалькі мільёнаў злотых. Але на тое, каб адбудаваць усё тое, што зьвішчана катастрофай, патрэбны „баёнскія сумы грошаў“... Урад асыгнаваў на дапамогу ахвярам выбуху паўмільёна зл.

На месца катастрофы выехаў віцэ-прэм. Бартэль, які заявіў на месцы, што ўрад заплоціць усе страты.

### Чуткі аб „замаху“ на кракаўскія парахоўні.

Толькі-што афіцыяльная экспэртыза сцьвярдзіла, што прычына выбуху кракаўскіх парахоўняў зьмяшчалася ў няўменьні адпаведных уладаў хаваць новыя гатункі пораху, якія самі запаліліся ад вялікае гарачыні, толькі што—на падставе гэтага прысуду спэцыялістаў-хімікаў — зроблены новыя распраджэньні ўладаў дзеля забясьпечаньня ад небясьпекі. А вось ужо розныя „ўсходнія Агенцтвы“ ды „Глосы Народу“ знаходзяць і „западозраных асобаў“, якія—„якраз у часе выбуху — прыехалі з Варшавы „з з апаленымі шнурамі“, ды былі арыштаваны паліцыяй. Словам, ізноў—„замах“!

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

### Кангрэс польскай „Сялянскай Партыі“.

У Варшаве адбыўся зьезд польскага „Сялянскага Саюзу“—п. п. Бруля і Домбскага. Вітаючы зьезд, пас. Домбскі ў сваей „Газэце Хлопскай“ піша:

„Вось, нарэшце сяляне сталі на адзіны шлях, які можа давясьці іх да перамогі. — Шлях гэты—шлях сялянскай клясавай палітыкі. Аджыўляючы рух, які—ў выніку гэтай новай палітыкі — ахапіў сялянскія душы ад усходу Польшчы на заход і ад палудня да паўночы, — кажа, што мы стаімо на добрай дарозе. Пад лёзунгамі гэтай клясавай сялянскай палітыкі, якая аб'яднае ў хуткім часе ўсіх сялян, мы будзем весьці нарады на нашым Кангрэсе—дзеля дабра сялянства і дзеля дабра ўсей Польшчы, — бо што ж такое Польшча без сялян?... Нарады нашы будуць грозныя ды варожыя толькі для паразітаў, грабежцаў нашай зямлі, для эксплёататараў ды шырыцеляў цемры“...

Як ведама, гэты „Сялянскі Саюз“ кіруецца пасольскім клюбам, які—побач з Вызваленьнем і 4 сябрамі „Клюбу Працы“ — стварае „парляманцкую падставу“ для ўраду п. п. Мэйштовічаў ды Незабытоўскіх. Гэта не перашкаджала гэтым клюбам „пілсудчыкаў без засьцярогаў“—з аднаго боку—дамагацца адстаўкі Незабытоўскага, але з другога боку—пахваляць яго „палітыку высокіх цэнаў на збожжа“, у выніку якой, паміж іншым, узрасьлі і цэны на зямлю ў краі. З гэтага ясна, што — пакуль жывуць ды сядзяць у Сойме паны Домбскія, Брылі і Валероны, усе „паразіты, грабежцы сялянскай зямлі, ды шырыцелі цемры“ у Польшчы могуць сабе спаць зусім спакойна, ня гледзячы на грозную „клясовую сялянскую палітыку“ гэтых павадыроў „Сялянскага Саюзу“...

Усе „сельсаюзьнікі“ — адным мірам мазаны!

У дзень адчыненьня „кангрэсу Сялянскага Саюзу“ яго павадыр пас. Домбскі (перакананы пілсудчык) пісаў, што „адзіны адпаведны шлях да перамогі сялянства ў Польшчы, гэта—шлях клясавай сялянскай палітыкі“, якую і будуць цьвёрда й паступова весьці павадыры „Сялянскага Саюзу“...

У справаздачы аб кангрэсе чытаем, што пас. Домбскі зрабіў „палітычны даклад“. Зрабіўшы агляд таго, што зрабіў урад марш. Пілсудскага (і мін. Мэйштовіча й Незабытоўскага?!) для сялянства, і паставіўшы рад далейшых дамаганьняў польскага сялянства—ў галіне замежнай і ўнутранай палітыкі, аратар „адносна да ўраду заняў становішча прыхільнае“. Газэты навет дадаюць; што ўчасьнікі кангрэсу—ў адказ на гэты вывад павадыра—„зрабілі маніфэстацыю—ў чэсьць п. Прэзыдэнта Рэспублікі і—**Старшыні ўраду**“.

Праўда, у далейшай дыскусіі міністрам Незабытоўскаму, Мэйштовічу і Станевічу рабілася шмат закідаў, а навет прынята рэзалюцыя аб іх адстаўцы; але ўсё ж той факт, што „да сучаснага ўраду кангрэс заняў становішча прыхільнае“, дый зрабіў яго старшыні гарачую маніфэстацыю, добра сьведчыць аб „клясавай сялянскай палітыцы“, якую маюць прадаўжаць сучасныя павадыры польскага сялянства.

Чым-жа яны горшыя за „нашых“?!

## Заграніцай.

### Сэсія Рады Лігі Народаў.

13 чэрвеня мае распачацца летняя сэсія Лігі Народаў—пад старшынствам Чэмбэрлена. На навестцы Рады — 34 справы, на разгляд якіх пойдзе, як думаюць, каля тыдня працы.

### Англійскі флёт у Балтыцкім моры.

7 чэрвеня ў Копэнгаген (сталіца Даніі) прыбыла вялікая эскадра англійскага флёту ў складзе 30 ваенных караблёў—крэйсероў, мінаносцаў і падводных лодак. Эскадра мае зрабіць візыты ў рад балтыцкіх партоў.

Радавая прэса лічыць гэтую „візыту“ яўнай правакацыяй англійскага ўраду адносна да СССР.

### Ізноў канфлікт Літвы з Ватыканам.

Як ведама, у Вільні ў хуткім часе мае адбыцца надзвычайная ўрачыстасьць: каранаваньне віленскай Вострабрамскай іконы Маткі Боскай—на каралеву Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага.

Нота літоўскага ўраду пратэстуе проці дазволу, які даў рымскі Папа на гэткую каранацыю, бо апошняя зьяўляецца далейшым працягам палянізаваньня Літвы і Беларусі, асьвячаючы гэту „новую ўнію Польшчы з Літвою“.

### Прычына зьмены ўраду ў Румыніі.

Нямецкая прэса падае запраўды ж сэнсацыйную вестку, што адстаўка румынскага прэм'ера Авэрэску выклікана ягонай замежнай палітыкай. Авэрэску стараўся абаперціся на Англію, якая хацела зрабіць з Румыніі сваю пакорную прыладу ў барацьбе з Радавым Саюзам. Вось-жа румыны рассудзілі, што Англія—далёка, а СССР — блізка, дык няма чаго аглядацца на далёкую дый віламі на вадзе пісаную помач Англіі. У выніку гэтага і узьняўся пратэст проці Авэрэску. Сам кароль скланіўся да таго пагляду, што йсьці на аброці ў Англіі—небясьпечна,—і Авэрэску мусіў падацца ў адстаўку.

### Новы румынскі ўрад.

Місія праф. Іоргі ня мела пасьпеху. Кароль назначыў прэм'ерам нейкага „беспартыйнага“ князя Штырбэя, які ў працягу некалькіх гадзін стварыў новы ўрад. У склад новага ўраду „нацыянальнага аб'яднаньня“ адразу ўвайшло толькі 6 міністраў; рэшта была дабрана на другі дзень.

Цікаўна, што папярэдні прэм'ер, ген. Авэрэску, доўга не хацеў спаўняць волю караля — іосьці ў адстаўку; урад яго навет канфіскаваў газэты за весткі аб урадавым крызісе. Аж нарэшце кароль, не чакаючы на абяцанае прашэньне прэм'ера аб адстаўцы яго і ўсяго ўраду, назначыў новага прэм'ера—пры „жывым“ старым... На паседжаньне рады міністраў зьявіўся міністар каралеўскага двара—ужо з загадам караля безадкладна падацца ў адстаўку. Толькі тады „ўсяўладнаму“ прэм'еру прышлося выпусьціць з рук уладу...

Адным словам—парумынску...

### Новыя чуткі аб паразуменьні Чанг Кай-Шэка з Чанг-Тсо-Лінам

З Пэкіна даносяць аб новым павароце спрытнага Чанг Кай-Шэка.—Быццам, разграміўшы ў саюзе з чырвонымі арміямі Ханькоўскага ўраду і ген. Фэнга ўвесь авангард Чанг-Тсо-Ліна, Чанг-Кай-Шэк увайшоў з ім у паразуменьне, каб... супольнымі сіламі пабіць усё чырвонае крыло кітайскіх арміяў, толькі што даўшае яму перамогу. Пэкінская тэлеграма сцьвярджае, што генаралы Чанг-Тсо-Ліна нездаволены новым „чырвоным“ саюзьнікам, але Чанг-Тсо-Лін быццам пастанавіў змусіць сваіх генаралаў да пакорнасьці.

Відаць, залішне спрытны Чанг-Кай-Шэк хоча гэткай тактыкай паступова пабіць абодва крайнія флангі кітайскіх арміяў, каб урэшце астацца—у цэнтры – адзінай кітайскай уладай.

### Завастрэньне канфлікту між Англіяй і Эгіптам.

У англійска-эгіпецкіх стасунках наступіла далейшае завастрэньне. Англійскі „высокі камісар“ заявіў каралю Фуаду, што англійскі ўрад лічыць прапазіцыю эгіпецкага габінэту — асабліва ў справе палажэньня англійскіх войск у краі — нездаволіваючай Англію. Эгіпецкі ўрад доўга канфэраваў над англійскім адказам. Эгіпецкая прэса лічыць палажэньне вельмі напружаным. Думаюць, што калі англійскі камісар ня ўступіць, дык сучасны ўмераны ўрад выйдзе ў адстаўку, а новыя выбары—пад папулярным лёзунгам барацьбы за запраўдную незалежнасьць ад ненавіснай Англіі—дадуць парлямант больш актыўны і рашучы.

Дык барацьба толькі паглыбіцца ды пашырыцца.

## Зьезд „Украінскай Грамады“

З польскіх газэт пакуль-што падаем весткі аб адбытым у Парыжу зьездзе „Украінскай Грамады“, якая неяк лучыць розныя кірункі ўкраінскай нацыянальна-палітычнай думкі. Ведамы дзеяч Шапавал, адзін з павадыроў украінскіх эсэраў, якія нядаўна йшчэ аднолькава варожа адносіліся як да Польшчы, так сама і да СССР, ды стаялі на грунце поўнай незалежнасьці, здабытай уласнымі сіламі,—зрабіў вельмі цікаўны даклад, з якога—паводле „Кур. Варш.“ — падаем галоўныя думкі.

Дакладчык стаіць за грунтоўную пераацэнку традыцыйнага аднолькавага адношаньня да Польшчы і да Расеі. Расейскае панаваньне, казаў дакладчык, прынесла ўкраінскаму народу ўсё-ж пэўныя карысьці. „Панаваньне Польшчы—адно толькі шкоду“. „У нацыянальных адносінах ня можна навет прыраўноўваць польскую палітыку да расейскай. Бо-ж палякі сіляцца перарабляць украінцаў на палякоў, і польская калянізацыя Украіны не раўнуючы больш грозная для ўкраінскага народу, чым панаваньне расейскае“.

Аканчальны вывад дакладчыка — такі: „Няма ніякага сумліву, што ў сучасным мамэньце галоўным ворагам культурна-нацыянальнага жыцьця ўкраінцаў ёсьць Польшча. Дык ўсе сілы ўкраінскага народу павінны быць скіраваны на абарону ад польскага наезду на Край“.

У далейшай дыскусіі выявілася прынцыповая згода ўсіх напрамкаў украінскай нацыянальна-палітычнай думкі ў адношаньні да гэтага вываду дакладчыка.

Адзін з аратараў асабліва заклікаў да таго, каб „адрозьніваць Расею ад Масквы“.—Ён казаў: „Расея—гэта-ж супольны твор усіх жывучых на прасторы яе народаў, у тым ліку і ўкраінскага. Украіна павінна проціставіць Расею—Маскве. Да таго-ж у гісторыі ўкраінска-маскоўскіх адносінаў ня трэба зьмешаваць палітыкі расейскага ўраду, варожай да ўкраінцаў, з расейскай грамадзкай думкай, прыхільнай наагул да ўкраінскага нацыянальнага руху“. У канцы сваей прамовы гэты аратар паставіў адкрыта пытаньне аб „Расейскай фэдэрацыі“, ды заявіў, што найважнейшая небясьпека для ўкраінцаў зьмяшчаецца якраз у заняпадзе ідэі „**Трыадзінай Расеі**“.

Гэты вывад падтрымалі і іншыя аратары, дадаючы, што ў сучаснай барацьбе Украіна ня можа весьці самагубнай вайны на два фронты: трэба выбіраць: з кім ды проці каго... „Дык — з маскалямі бараніцца ад палякоў“...

Да гэтых дыскусіяў кракаўскі „Час“ робіць гэткія ўвагі:

„Аддавацца надалей ілюзіям—няма сэнсу. Справа ясная: Пятлюра, Оскілка, Бачынскі—гэта ўсё магілы, трупы. Жыве Васыньчук. Шапавал выясьняе, узгадоўвае. Трафімчук пастанаўляе. Мілюков багаслаўляе. Але гэта не павінна выбіваць нас з раўнавагі ды зьнеахвочываць да працы пазытыўнай, чэснай, умацняючы -- бяз крыўды для іншых народаў — непарушнасьць нашых дзяржаўных граніцаў. Ня трэба толькі лёгкаважыць гэтыя перасьцярогі, трэба працаваць — бяз ілюзіяў“...

Бяз ілюзіяў з абодвух бакоў — вось і найлепей!

